Цана асобнага № 40 кап.

# Вольная Беларусь

Тыдневік палітычны і літэратурны.

Умовы падпіскі:
На год......12р. —
На поўгода.... 7р —
На 1 мес.... 1р. 50к.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: г. Мінск Захарауская, 18. Тэл. 776.

Перамена адрэсу 50 к.

Год выдання II.



Ніхай жыве Вольная Беларусь!



№ 13. 1918 г. 14 -го красавіка 1918 г. № 13.

## Памяткі старасьвецкай беларускай мовы і пісьменства.

II.

(Безупынныя змаганні с пачатку з нямецкім рыцарствам, а потым з Масквою, прымусілі, як ведама, Вялікае Князство Беларуска-Літоускае злучыцца с Польшчай, але думка аб дзяржаунай нізалежнасьці ніколі ні пакідала нашых продкау. Пры першай зручнасьці яны стараліся вызваліцца с-пад Польшчы і вярнуцца к даунейшаму нізалежнаму дзяржаунаму бытаванню. Аб гэтым сьведчыць і ніжэй выдрукованы дакумэнт, або нешта на кшталт дакладной запіскі, пададзенай у 1526-м г. прэдстаунікамі беларуска-літоускаго князства каралю Зыгмунту Старому.

Зыгмунт-Аугуст назначаны быу асобным ад Польшчы каралем на Беларуска Літоускае князство (1526-9) г.. Яго урочыста узьвялі на прэстол, а потым рабіліся розныя хітрасьці, каб каранаваць яго княжацкім вянцом. Зыгмунт Стары, выхаваны на Беларусі, шчыра любіу свае князство і усею душою спачувау дамаганням яго нізалежнасьці. Ен аднавіу усе грамадзянскія правы, якіх у свой час былі пазбаулены усе ні-каталікі у Беларуска-Літоускім князстві, абкружыу сябе протэстантамі, каб паменьшыць польскі уплыу на урад, і крыема ажаніуся с сястрою вяльможнаго протэстанты Радзівіла—Барбараю. Элемэнт польскасьці такім чынам нішчыуся да звання, а разам с тым разрушауся і саюз с Польскім каралеуствам.

Само сабою разумеецца, што паляки ні маглі памірыцца с такім станам рэчы і дакладалі усіх сілау, каб перашкодзіць гэтаму. Дзякуючы іх старанням, папа рымскі прыслау меч Зыгмунту, прапануючы яму зьнішчыць усіх гэрэтыкоу (протэстантау). Каталіцкі віленскі біскуп урочыста заступіу дарогу Зыгмунду, калі ен ехау у протэстанскую цэркау, каб пабачыць протэстанскае набажэнство. Таемны шлюб з Барбарай зрабіуся мэтай фанатычных нападау. Мягкі і нірашучы Зыгмунт-Аугуст стау хістацца і халадзець да Літвы-Беларусі.

Тым часам, у Польшчы памер кароль, і Зыгмунт-Аугуст на моцы старога звычаю выбран быу польскім каралем. Ен ні меу ні брата ні сына, дзеля чаго Беларуска-Літоускае князство ні магло адтрымаць сабе асобнаго караля і паняволі зьбліжалося с Польшчай праз аднаго гаспадара. Такім чынам, мары аб поуным аддзяленню ад Польшчы і аб поунай палітычнай нізалежнасьці разьбіваліся на друзгі. Скончылося тым, што пры Зыгмунту Старом Беларуска-Літоускае Князство ні толькі ні вызвалілося с-пад Польшчы, а да рэшты злучылося з ею і аканчацельна страціло сваю дзяржаўную нізалежнасьць на моцы Люблінскае вуніі 1569-го г..

Ніжэй выдрукаваны дакумэнт можна аднесьці к ліку апошніх праявау дзяржаунай нізалежнасьці у Беларуска-Літоускім князстві).

«За слаунае памяці дзеда вашае мiласьці караля Уладзіслава, а за стрыя вашае міласьці вялікаго князя Вітаута, маючы бачнасьць ацец сьвяты папеж і цэсар хрысьціянскі на знаменітасьць учынкау вялікаго князя Вітаута а на сталасьць і моцнасьць яго працiуку паганства, а к таму маючы бачнасьць на зацнасьць панства таго вашае міласьці вялікаго князства Літоускаго, - паслалі былі ацец сьвяты папеж і цэсар каруну вялікаму князю Вітауту да таго там панства вашае міласьці атчызнаго—вялікаго князства Літоускаго. А у том вялікі князь Вітаут с сяго сьвета зышоу, каруны тае ні даждаушы, каторая-ж ужо была на дарозе і загамавалі яе панове паляцы і да тых часоу яе выдаці ні хацят і ні зычат тае чці панству вашае міласьці атчызнаму. Таму-ж панове іх міласьць рады вялікаго князста Літоускаго,—слугі вашае міласьці,—вяліка ся дзівуют, іж брацця іх, панове паляцы, ім хрэсьцiянам а брацці сваей, таго ні хацелі зычыць, а цяпер ні забараняют таго тым адшчапенцам, Маскве. *) Ні хацелі іх міласьць радзіць у том вашай міласьці, абы тот пасол папежскі ні быу прапушчан так латве с такавым пасэльствам да Масквы; а ліж бы ваша міласьць рачылі а том добрэ разважыці і паразумеці з радамі вашае міласьці вялікаго князства Літоускаго. Але падобна іх міласьць, панове рады каруны польскае, зычут таго умысьлене таму адшчапенцу,—міма панство вашае міласьці атчызнае, для таго, абы тое паньство вашае міласьці было у панiжэнню, ажэбы уцелено ім у каруне, а што-ж ся оні (яны) дауно працуюць, хацячы дзедзіцтво вашае міласьці прыулашчыці ту,—к князству каруны Польскае. У чом-жя казалі вашу міласьць пакорне прасіці іх міласьць, брацця наша, - слугі вашае міласьці прыражоныя,—абы ваша міласьць ні рачылі таго паном польскім пад намі зычыці, жэбы іх міласьць —слугі прыражоныі вашае міласьці—мелі быці подданы к каруне польскай. А зулашча, рачыл-бы ваша міласьць таго бараніці для патомкау вашае міласьці, бо заужды лепей а пажытачней будзет патомкам вашае міласьці, калі тое паньство вашае міласьці атчызнае будзет пад асобым тытулам і правам ад каруны Польскае. Яко-ж ся і тых часоу прыдало да сына вашае міласьці, іж іх міласьць панове рада вялікаго князства Літоускаго з дабравольствам і ахотне сына вашае міласьці сабе за пана абралі і прысягалі яго міласьці, чаго-ж панове паляцы, снаць, і да тых часоу учыніці ні хацят. А ягды-бы князство вялікае Літоускае было прыулашчано к каруне, тагды-бы ся такі пачатак шчасьліваго паднясення сына вашае міласьці ешчо был ні стал. А про то іх міласьць,—рада а слугі вашае міласьці, брацця наша,—вашу міласьць пакорне просят, абы ваша міласьць рачылі ся ласкава улажыць і радам вашае міласьці каруны польскае прызнаць, абы оні (яны) тую каруну, каторая паслана к вялікаму князю Літоускаму, вярнулі к князю вялікаму яго міласьці, сыну вашае міласьці, абы яго міласьць пры шчасьлівам панаванні вашае міласьці был карунован. Бо, міласьцівы каралю, кгды будзет тое паньство вашае міласьці атчызнае—вялікае князство Літоускае—мело каруну, тагды ні можа быці прыулашчано к каруне Польскай.—бо каруна у каруну уцелена быць ні можа. А так ужо бы панове паляцы ні імелі тае жаласьці, абы тое панство вашае міласьці атчызнае было уніжоно і прыулашчоно к нім, але роунае брацтво і прыязьнь стала-бы з аднаго напроціу каждаму непрыяцялеві. А естлі-ж бы панове іх міласьць рады каруны польскае ні хацелі каруны тае сынові вашае міласьці к вялікаму князству Літоускаму вярнуці, тагды іх міласьць рады вялікаго князства Літоускаго—слугі вашае міласьці—просят вашае міласьці, абы ваша міласьць рачылі да атца сьвятого папежа і да цэсара пасланці, жадаючы а каруну сыно

*) Гэта гаворыцца аб тым, што папа пасылау сваіх прэдстаунікоу да Маскоускаго князя Васілія; продкі нашыя баяліся, каб папа ні дау каралеускае кароны Маскоускаму князю.

Гарэлка, піво і віно!
Пры мне, засеушы поу канапы,
Сядзеу панок раздуушы храпы,
Якбы які кітайскі цар
Казалі—гэта камісар...
Я зразу думау, што сам грабі,
А яго паня уся у адбабі,
У вачох меняецца-блішчыць,
А як паверніцца—шасьціць.
Другі ягомасьць паважаны
Сядзеу, урэчы надзеваны,
Маленькі тоусьценькі папок
І чорненькі, так як жыдок.
Ядау ен з малку шмат працолу,
Пасучы дробную жывелу,
А яго дзядзьку шмат хто знау,
Калі атопкамі сьвістау.
Ен посьля нейкаго злучаю
Забіуся да чужога краю,
Працау, казалі, з галавой;
Але прэд неякай вайной.—
Мусіць прад Крымскай ці Капкаскай,—
Найшоуся неяк з Божай ласкай
Ды у падрадчыкі папау,
Рабіу масты, равы капау.
А у той час,—чаго й дзівіцца?—
Легка траплялося нажыцца,
Бо павярнуушыся назад,
Адразу неяк стау багат.
Прывез, казалі, многа грошы,
Купіу хвальварачак харошы,
І ажаніуся сабе ен
Ды і зажыу, так як барон.
Узяу ен паню чорнамазу,
Казалі, добрую заразу,
Бо гаварылі дваракі
Беліць масьлянкай буракі.
Трэці у добрым хоць адзеуку,
Але сядрау бы мусіць плеуку,
Ні пастыдаушыся нічуць,
С таго, што сьвінні у нас ядуць.
Чацьверты лысы, з добрым пузам
С чырвоцым носам, так як гузам;
За тое пяты, мой сусед,
Быу высахшы—так, як шкілет;
Шасты відно быу добры перчык,
Бо і хварсіст і хванабэрчык;
Семы лыкнуць, казалі, рад;
А восьмы гэта нейкі сват,
Круціу хвастом так, як лісіца,
А яго паня так, як сьпіца,
Трыдцатку мела ужо на лік,
Ды і жыгало ні язык.
І гэта імасьць, мой ты браце,
Перша у іх была там сваця.
Ну, брат, і гадаука была,
Каб яе хіра узяла.
Маршаліцы, каб іх залозы,
Скакалі, ветрылі, як козы,
Але маршадкі—малайцы,
Леталі так, як жэрабцы.
Чаго яны ні танцавалі,
Ды з гэтым і ка мне прысталі,
А я, лыкнуушы чарак с пяць,
Пашоу с панамі танцаваць.
Схапіушы паню сабе нічым,
Хоць с носам неякім індычым,
Начау круціцца і скакаць.
А што—і сам ні мог я знаць.
Можа ні было бы сьмеху,
Прызнацца сягоння без грэху,
Ші выцягнууся я у весь рост,
Каб ні яе праклятый хвост.
Я наступіу ей на спаунішу
Абарвау, мусіць, паясьніцу,
Ды ублытауся, як у сець.—
Ніхай іх трасца затрасець.
Плячыма грымнуу на падлогу,
Але усхапіуся, дзякуй Богу.—
Ледзь схапіу шапку і халат,
Папер да хаты рад ні рад.
Яны ж, як посьля мне сказалі,
Вялікі рогат там падвялі,
І усе сьмеяліся з мяне,
А толькі мой прыяцель—не.
Гэтак было мне на вяселлі.»—
Сабраушыся адной нядзелі,
Стары Пранук нам разсказау,
А я із слоу яго сьпісау.

18 VII–1910 г. **Стары Улас.**



# Нёман.

Ціха цячэ у нас Нёман, ціха і сумна, як час па растанню. Ні імчыцца ён з рызыкай уперад, ні шуміць, ні гудзе і ні пышыцца сілай, а паволі, ступою, моў скуты журбою,—льецца, як срэбро па роднаму грунці. Чысты, як шкло, сьветлы, як дзень, сумны і пекны, як харастводзь у задумі, ходзіць ён, смуклы юнак, ва усе бокі, цешыцца-песьціцца на матчыных грудзях, ліецца-пясецца, сумуе-журбуе і ні можа разстацца з роднай краінай...

Міл яму ціхі гаёк каля лесу, любы зялёныя доўгія ніукі; мілы лясэ, пясчаныя выдзьмы, горы, вазёры, грудэ, сенажаці, люб яму й жоўты пясочак на уласнаму беразі. Ды, як скованы думкай вечнай разлукі, пахаджае ён смутна па роднаму краю, — усё разглядае, з усім размаўляе, усё ціха жагнае, моў цяжка ўздыхае. Падойдзе, засмучаны, к цёмнаму лесу, — сьцішыцца, змоўкне, замрэ й абамлее, а потым заверпецца — падасца уперад ды зьнікне у лесі. Там пагуляе, у цяньку сапачыне, пагамоніць задумліва з ёлкамі, соснамі, — пацiхне, ўстрэпянецца ды выбяжыць ў поле, — зазьяе, як срэбро, заблішчыць-засьмяецца на сонцы ды разальецца устужкай па квяцістаму лузі...

І куды-б ні забег ён, дзе-б ні разліўся — скрозь, як пачэсная варта вяльможнаго пана, бяжыць за ім ў сьлед і мігціцца абапал зялёна-купчастая пушча. Лозы, алешнік, касацісты дзягіль, ажыннік, малівнік, аер с ачаротам, — усё пазрасталось, зьліпло, сплялося і стаіць над вадою разгатай сьцяною. Сумны вербняк, пастаўшы ў радок, моў тыя пратэсы у азнаку пашаны, параскідаў галлё ва усе бокі і нахіліўся на воду, а тонкае веце яго пазьвісало уніз, як матчыны косы над дзіцячай калыскай. Чырвона каліна ірдзіцца на сонцы, трапечацца лісьце асіны ў паветры, с кустоў выглядае цурышка і глядзіцца у воду, як красна дзяўчына крыёма у люстэрку, а па узгорках — магутна, як вежы, уздымаюцца у небо дубэ... Птушкі сьпеваюць, конікі граюць і пчолкі гудуць, як арганы, ў паветры...

І толькі вось там, дзе трапіцца плёсо, дзе жоўтае поле пяску разлеглося, — толькі там гэта пушча, як чуйная варта нябогі, нібы разступаецца, застаецца пазаду як-бы дзеля таго, каб Нёман пабегаў адзін, пагуляў на самоці ды каб потым ізноў абступіць, агарнуць, уваб'раць яго бокі ў зялёныя шаты...

Ужо ў самым пачатку, с першых крокаў свае падарожы, Нёман ні волен ад жыццёвых турботаў. Толькі парвуцца кайданы зімовай няволі, як слабым грудзям яго трэ' ўжо напружацца і несьці у чужыну багацце і пыху роднаго краю. І ад самай вясны да халоднай восяні плывуць ды ідуць жалобнай працэсьяй плытэ: то нізграбныя, сухія і белыя, як чалавечыя косьці, куртатыя згоны, то хмурныя і цёмныя, як маучозна сінеючы навокала лес, дзябелыя, лавак у трыццаць, важкія плытэ. Ды толькі і чуеш, як з ранку да вечара магільнаю яхай раздаюцца выгукі каманды:

«Тарнуй на барбару-у! За-кідай шыры-гу-у!»

А то рахубны купец [illegible] індзя махне, пасьміхнуўшысь, рукой на забароны ды пусьціць шарось. Тагды чыстыя хвалі яго укрываюцца брудам, як чалавечыя грудзі каростай. А у брод — ні прайці, ні праехаць: коні храпуць, рыкае ад страху жывёла, крычаць аж да поўначы качкі, гусі дамоў ні прыходзяць, плача пастух і чуюцца усюды праклёны...

А часам с прадвесьня, у поўную воду, з матай баданьня, прымчыцца аднекуль жывец-параход: загудзе, залопача чырвонымі крыллямі, чмыхне ды зьнікне, як-бы пракапаўшыся, што:

«Квол яшчэ, браце, — ні ўздымеш віціны!»

А што тыдня, у чацьвер, у пагоду й нягоду, у зімку і ў летку, — варочае нетры Нямніска скарбовы рыбак. Закінуўшы волак і пабраўшы вяроўкі на плечы, ухаюць, пнуцца рыбакі-нябаракі, — стогнуць, ірвуцца з апошняе сілы, каб заможнае панство у замку мело сьвежую рыбу да столу...

**Язэп Лёсік.**



# Аб зайдрасьці.

Жыу-быу стары жабрак. Хадзіу ен па акалічных весках на жабраніну і так каратау свае жыцце. Меу ен усяго дабытку дзьве дзюравыя торбы і замяніць іх новымі ні меу змогі. I зайдросьціу ен другому жабраку, маладзейшаму, каторы меу торбы новыя, з усім прыборам, с падцяжкамі і падвітушкамі. I думау стары жабрак: «Вот, Божэ мой,—ен мой таварыш, маладзейшы за мяне і торбы новыя мае; яму тольві жыві, ні аб чым ні клапаціся, а як мне старавіні, дык вось як Бог дау. Чаму гэтак?»

Малады жабрак зайдрасьціу кабеціні Тадоры, што жыла у баку ад вескі у малой, старой, пахіліушайся хатцы і мела дабытку дзьве курыцы. Сын Тадоры быу у Амэрыцы і высылау матцы натта мала грошай. праз што Тадора ледзь ні памірала з голаду і холаду у сьцюдзенай хаці. I думау маладзы жабрак: «Вот, Божэ мой, як Ты ні роуна дзеліш! Я вандрую дзень і ноч па жэбрах, а перапачаваць німа гдзе. Вот Тадоры другое жыцце! і хату сваю мае, дзьве курыцы,—жыві і паміраць ні трэба. Чаму-жа мне, гаротнаму, Ты дау такую долю?»

Тадора зайдрасьціла свайму куму, Цыпрусю, каторы жыу на канцы вескі. Ен меу аж дзьве дзесяціны зямлі, кароуку худую і старую і каняку, ледзь жывую. У дадатак да гэтаго было у яго дзевяцеро дзяцей, і сам ен быу хворы. I думала Тадора: «Вот, Божэ мой, чалавек увесь век свой кідаешся, бьешся, як рыба аб лед, і нічога зрабіць ні можаш; галодная, халодная мусіш жыць. Вот куму майму—зусім іншае жыцце. Мне хоць бы перад сьмерцяй давялося на гэткай гаспадарцы пажыць!»

Кум Тадоры зайздрасьціу свайму сваяку, каторы служыу у двара за парабка: меу ен добрую карову, скормліваў на восянь кабана, пэнсіі брау 45 р. у год і андынарыю. I думау сабе Цыпрусь: «Вот, Божэ мой, чаму ты мне ні судзіу быць на мейсцы майго сваяка? Служыу бы я сабе і гора ні знау бы: усе гатовае, ці дождж ідзець, ці засуха,—мала абходзіць цябе: твае ні высахло, ні вымакло; а свая гаспадарка,—гэта іншая справа: мусіш таучыся дзень і ноч, як Марка па пеклі.»

Парабак зайдрасьціу аканому. «Вот, Божэ мой—думау парабак—я працую, пот свой праліваю і спагадвасьці ні маю; усе падганяюць яшчэ, каб хутчэй, а вот узяць хоць бы аканома: нічога ні робе, тольві глядзіць, як другія робяць; пэнсіі у год 120 р, дзьве каровы дзяржыць, што дзень есьць бліны с верашчакай, малаком запівае. Хоць бы палавіну яго жыцця мне,—ні зазнау бы я гора.»

Аканом зайдрасьціу упрауляючаму. Ні раз гаварыу ен сваей жонцы: «Вот Бог дае людзям шчасьце! Вот хоць бы сабе наш упрауляючы: жывець сабе, як у раю, грошы аграбае ніялічоныя. а клопатау ніякіх ні мае,—усяго тольві і знае нашаго брата расьпякаць. Вечна крычыць і нават рукі ніколі ні падасьць. Ну, і жыцце Бог дае людзям! А ты пільнуй, каб усе было дагледжано, прыбрано; а калі што-небудзь упусьціш,—так і пакажацца пад носам кулак упрауляючаго. Вот жыцце мае, каб яно апрунянело! Ні жадаю гэткаго жыцця і свайму ворагу.»

Упрауляючы зайдрасьціу пану і так думау сам з сабою: «Пан круціцца заграніцай, а ты зьбірай яму па маентках грошы, як крумкач косьці: пасылай яму на гульбішчы, здавай усякія рахункі, куды грошы дзяюцца, агрызайся з гэтымі дурнямі аканомамі, ні мей ні днем ні у ночы спачынку. Каб, здаецца, мець хоць палавіну гэтых маенткау,—дык і тагды-б было райскае жыцце. I чаму гэта Бог ні роуна дзеле?»

Пан, заграніцай мандруючы, усіх роскашау запрабавау,—вядома магнат. I усе ужо яму абрыдзяло: жадау ен яшчэ тольві пабыць каралем.

Зямля была поуна нараканнем на Бога; кожны быу нізадаволены сваім жыццем і скардзіуся на ягэ. Бог, чуючы усе гэта, сказау сваім анелам, каб задаволілі жаданні людзей і зрабілі усе, што тыя захочуць. Паляцелі анелы спауняць Боскі загад.

I вось маладзы жабрак, сабраушы крыху грошы, купіу у Тадоры хату і нават дзьве курыцы а так, як ен не застау хадзіць па жэбрах, бо ніхто нічога ні давау яму, меушаму сваю хату,—дык ен свае торбы аддау старому жабраку, с чаго той быу надта задаволены.

Стары жабрак надзеу на сябе новыя торбы, а свае старыя, падраныя, кінуу у кусты. як ніпатрэбныя больш. I вось праз нейкі час спаткауся ен с салдатамі. Тыя, бачучы у яго новыя торбы, адабралі іх на авес для коняу. Заплакяу жабрак, шкода яму стало сваіх даунейшых торбау і стау ен прасіць Бога, каб Ен дазволіу адшукаць старыя торбы.

Маладзы жабрак, будучы хворым і, ні могучы працаваць. зусім занямог з голаду і холаду; курэй яго падзер каршун. I успамінау маладзы жабрак свае даунешае жыцце, як яму жылося прывольна і быу спакой на душы Хацеу ен прадаць сваю хату, але ніхто ні купляу; і стау ен прасіць Бога вярнуць яму мінулае жыцце.

Сын Тадоры прысылау ей з Амэрыкі грошау, а як яе кум прадавау сваю гаспадарку, сабіраючыся ісьці у двор служыць за парабка, дык Тадора. ні доуга думаючы, прадаушы сваю хату жабраку, купіла гаспадарку кума. Сын Тадоры, пачуушы, што маці пабагацела купіушы гаспадарку, перастау слаць грошы. Прыйшоушую зусім да упадку гаспадарку кума Тадора без грошау ні змагла палепшыць і яшчэ горш запусьціла: конь здох, карова захварэла. і Тадора, баючыся, каб яна так сама ні здохла, прадала яе; хата стала яшчэ горшай, чым была раней. I стала Тадора успамінаць свае мінулае жыцце, калі яна сядзела у сваей хатцы і жыла спакойна. Хацела яна зноу вярнуцца да свае хаткі і дзьвех курыц і каб ізноу сын прысылау грошы.

Кум Тадоры астауся за парабка у двара. А як ен быу хворы, дык служыць у двара яму было ні падсілу; маліу ен Бога, каб вярнуцца зноу на сваю гаспадарку.

Быушы парабак зрабіуся аканомам і, дабраушыся да аканомавай верашчакі з блінамі, так яе наеуся, што прыйшлося завесьці яго у шпіталь на лекі і ад службы яму адказалі. Праклінау парабак аканомаускую верашчаку і самога аканома і зарокся больш есьці яго верашчаку.

Аканом пасьля шчырай службы астауся упрауляючым.

Упрауляючы, пад каторым быу аканом, купіу у свайго пана частку маенткау, бо таго выбралі у каралі. Дык вось упрауляючы, стаушы панам, узяу да сябе на службу быушаго аканома, даручыу яму кіраваць сваімі маенткамі. А як той быу малаграматны, дык на новай службі зусім запутауся; ні умеу здаць рахунку і часта мусіу прыплачываць свае грошы на панскія патрэбы, сумавау па сваей даунейшай службі і хацеу зноу, як найхутчэй вярнуцца да яе.

Пана, як выбралі за караля, дык ен узяу ды прадау частку сваіх маенткау па таннай цане свайму быушаму упрауляючаму. Але той ні доуга карыстау з іх, бо знайшліся сваякі пана і пачалі судзіцца, каб адабраць у упрауляючаго землю, што ім і удалося. Упрауляючы, палажыушы свой, які меу, капітал, на куплю гэтай зямлі і агалеушы па судох, мусіу шукаць сабе якога-небудзь прыпынку. Шкадавау ен свае даунейшае службы і хацеу бы вярнуцца да яе.

Пан, стаушы каралем, пачау вайну са сваім суседам, але, астаушыся зваеваным, мусіу уцякаць у чужую старану, і ен хацеу бы вярнуць назад свае даунейшае жыцце.

Панясьліся ізноу са сьвету да Бога жальбы і просьбы. I прамовіу Пан Бог да людзей: «Зайздросьнікі! Калі вы задаволіце свае жаданні? Памятайце! Якое я дау чалавеку жыцце, с такога ен мусіць быць задаволяны і быць удзячным Таму,

Хто яму гэтае жыцце дау. Пiудзячныя! Настане судны дзень i вам прыдзецца з усяго гэтага здаць рахунак. Здаволю Я зноу вашыя жаданнi. Хай вернецца да вас жыцце, якое вы перш мелi!»

I вось стары жабрак прыпадкам знайшоу у кустох свае старыя торбы. Малады жабрак, прадаушы хату зноу Тадоры, згарусьцiу сабе новыя торбы i зноу пайшоу на жабрах. Тадорын кум Цыпрусь варнуу ей грошы за гаспадарку, кiнуу службу у дварэ i перайшоу гаспадарыць на свой загон. Тадора, адкупiушы хату, была вельмi рада з гэтаго трафу; сын iзноу пачау ей слаць грошы. Парабак, ачуняушы, заняу у дварэ мейсцо Цыпруся i дау сабе зарок нi есьцi больш аканомаускай вярашчакi. Аканома, як нiздатнаго быць упраулюючым, адправiлi са службы, i ен знайшоу службу, стасоуную да сябе, с чаго быу вельмi рад. Пана як скiнулi з каралеуства, дык ен вярнууся зноу да сваiх маенткау, а як упраулюючы яго быу без службы, ен iзноу узяу яго да сябе. I на вейкi час усе засталiся задаволены сваiм жыццем.

*Язэп Шпэт.*

# КРОНIКА.

**Прэзыдзiум Беларускай Рады у Вiльнi** паслау Iмперскаму Канцлеру, Прэзэсу Рэйхстагу i генаралу Людэндорфу гэткую тэлеграму:

«У апошнiм часе у Бэрлiне адбывалася нарада польскiх прэдстаунiкау з вялiкшасьцю Рэйхстагу, на каторай спрадвечна Беларускiя землi разглядалiся як кампэнсацыя Польшчы за адрачэнне яе ад прэтэнсiй на Познаншчыну. Хаця нарада мела прэлiмiнарны характар, аднак яна адрымала значэнне паўофiцыяльнае с прычыны прыняцця гэных польскiх прэдстаунiкау панам Iмперскiм Канцлерам i прызнання абапольных прэдлажэнняу Рэгенцкай Радай Польшчы.

«Прымаючы гэта пад увагу, Беларуская Рада лiчыць сваей сьвятой павiннасьцю заявiць самы катэгорычны пратэст працi гэткаго гiбельнаго для цяперашчыны i будучыны больш чым 10-мiльённаго Беларускаго народу праекту раздзелу Беларусi i аддачы Польшчы чыста беларускiх зямель — Меншчыны, Гродзеншчыны i Беласточчыны.

«Разам с тым Рада горача протэстуе працi выяуленаго гэтым поунага нiуважэння безспорнаго права Беларускаго народу на самаадзначэнне, каторае знайшло ужо свае выражэнне у дамаганню дзяржаунай нiзалежнасьцi усiх Беларускiх зямель.

Вiльня, 17 марца 1918 г.»

**Беларуская выстаука у Вiльнi i Бэрлiне.** Гэтымi днямi прыезджалi у Менск беларусазнаўца д-р Энке i публiцыста Брамар, маючыя сваей мэтай сабраць у Менску усе матэрьялы для будучай Беларускай Выстаўкi у Вiльнi, а потым у Бэрлiне.

Д-р Энке цiкавiўся, куды дзелiся памяткi беларускiя: архiвы, бiблiатэкi, -уцкiя паясы, дываны, абразы, мануск-ты i iнш.

-аргаiзацыi выстаўкi памагае зна-ларускi дзеяч i вучоны I. I. Луц-

-лорусское Слово»—новая газэта у -выдавецтва «Бѣлорусской орга- на Украинѣ» пачала выходзiць савiка.

У № 1 ёсьць стацця праф. Довнар-Запольскаге, граматы i пастановы сакрэтарыята Беларускай Народнай Рэспублiкi i т. п.. У тэй-жа газэце друкуецца, што у Кiеў прыехалi дэлегаты беларускiя С. А. Рак-Мiхайлоўскi i А. I. Цвiкевiч, каторыя вядуць перагаворы з народнымi мiнiстрамi Украiны аб граніцах з Вялiкарасiяй *„Бел. Шлях"*.

# Нiзалежнасьць Лiтвы.

Дэлегацыя Лiтоўскай Краёвай Рады была у п. канцлера, каб ад iмi Лiтоўскага народу прасiць Нямецкi урад прызнаць нiзалежнасьць Лiтоўскай Дзяржавы. П. канцлер даў дэлегацыi гэткi адказ:

«Ад iмi i па загаду Яго Вялiчэства Iмператара я павiнен сказаць вам вось што: пасьля таго, як Лiтоўская Краёвая Рада, як прызнаная прэдстаўнiца Лiтоўскага народу, прасiла 11.XII. 1917 г. адбудовы Лiтвы, як нiзалежнай дзяржавы, зьвязанай з Нямеччынай вечнай моцнай сувязьзю i конвэнцыямi, асаблiва ваеннай, дарожнай, мытнай i грашовай; затым, пасьля таго, як бышых раней дзяржаўных зьвязей Лiтвы цяпер нiмашака, Лiтва цяпер прызнаецца Нямеччынай свабоднай i нiзалежнай дзяржавай на аснове памяненай заявы Лiтоўскай Краёвай Рады з 11.XII. 1917 г.

«Нямеччына гатова аказаць Лiтоўскай Дзяржавi прошаную абарону i помач пры яе адбудове i, згодна с прэдстаўнiкамi насялення Лiтвы, ўчынiць дзеля гэтага адпаведныя крокi. Iмператарскi урад глядзiць па гэта с таго боку, што канвэнцыi, каторыя будуць падпiсаны, будуць зроблены гэтулькi ў iнтэрэсе Нямеччыны, колькi i лiтоўскiм, i, што Лiтва падзелiцца з Нямеччынай ваеннымi цiжарамi, каторыя былi зроблены для яе асвабаджэння. Формальны дакумэнт аб прызнанню Лiтоўская Рада яшчэ атрымае.»

Дэлегацiя цяпер вяртаецца у Лiтву, каб сказаць сваiм землякам аб рэзультаце падарожы.

«Voss Ztg» пiшэ:

«Труднасьцi ў лiтоўскай проблеме шмат вялiкiя. Да iх належыць i спорка аб польскiх i беларускiх прэтэнсiях дзеля часьцей Лiтвы i асаблiва спорка аб Вiльню.» У гэтай жа самай газэцi праф. Штэйн апаведае аб гутарцы з лiтоўскiмi дэлегатамi, каторыя заявiлi, што для Лiтвы адпаведны толькi монархiчны i конституцыйны урад. Лiтвiны нi дамагаюцца нацыянальнай цэркви, але жадаюць дэмократычных выбараў i Вiльню за сталiцу. Працiў Беларусi са сталiцою ў Менску яны нiчога супроць нi маюць i хочуць падтрымлiваць добрыя адносiны з Украiнай.



# З Беларускаго слоунiка.

### Граматыка.

! . . . . . клiк, клiчнiк.
? . . . . . пытальнiк.
~~~~ . . . . лянкотка.
( — ) . . . . скабкi.
— . . . . . рага.
- . . . . . рагулька.
= . . . . . допас, пасоука.
. . . . . . мэтка, запiнка.
: . . . . . двухмэцце.
... . . . . . многамэцце.
, . . . . стрымнiк, прытыка.
„ — " . . . . крывулькi.
[ — ] . . . . клямар, клямкi.
; . . . . запiнка с стрымнiкам.

### Гэографiя.

Зямная гала, гала зямлi — земной шаръ.
Вытак — — истокъ.
Расток. — — водораздѣлъ.
Прыток — — притокъ.
Суток - кi — перешеекъ, соединенiе.
Затока — — заливъ.
Атока — — полуостровъ.
Сталагорье — плоскогорiе.
Узгорье, прыгорье. подножiе горы.
Узгорак — холмъ.
Стэп, паметы — степь.
Роунядзь — равнина.
Цёк — — теченiе.
Паводка — — то-же.
Рытва — — русло.
Вiр — — — омутъ.
Глыб — — глыбина.
Пратак — — проливъ.
Грунт — — почва.
~~~~

| | |
|---|---|
| Касагорье — | ущелье, тѣснина. |
| Адкос — | — коса. |
| Галка — | — шарикъ. |
| Узвышшо — | — возвышенность. |
| Вадасток — | — устье. |
| Накал — | — мысъ. |
| Закля — | — рѣчной заливъ |
| Букта — | — бухта. |
| Разводзьдзе | — наводненіе. |
| Лука — | — рѣчной рукавъ. |
| Узморье — | — взморье. |
| Хваля, вал, вагар | — волна. |
| Валька — | — волненіе. |
| Навальніца | — буря с громомъ и дождемъ. |
| Швэдзія — | — Швеція. |
| Арабія — | — Аравія. |
| Галічына — | — Галиція. |
| Амэрыка — | — Америка. |
| Галяндыя | — Голландія. |
| Гішпанія | — Испанія. |
| Эуропа — | — Европа. |
| Вільня — | — Вильна. |
| Гродня — | — Гродна. |
| Ворша — | — Орша. |
| Дняпро — | — Днѣпръ. |
| Вілля — | — Вилія. |
| Гомль — | — Гомель. |
| Нёман — | — Нѣманъ. |
| Задзьвінне — | — земля - къ сѣверу отъ Двины. |
| Радань — | — земля радимичей, между рр. Днѣпромъ и Десной по теченію р. Сожи. |
| Падзьвінне - | — земля кривичей по теченію р. Двины. |
| Райскія горы узгорье. | холмистая возвышеннасть, лежащая на сѣверѣ Бѣлоруси вдоль границы Витебской и Псковской губ. |
| Жарства, жвір | — гравій. |
| Глей— — | — глиноземъ. |
| Ляды — | — срубленный лѣсъ |
| Лог — — | — низкая мѣстность |
| Хмыз — | — заросль-ли. |
| Хмызьняк — | — кустарникъ. |

*(Працяг будзе).*



## Беларускія думкі.

### Восянь.

Павеяў вецяр маразямы
Ды зашумеў панура бор,
І сухі ліст паабрываны
Ганяе, круцячы, віхор.

Сонейко грэць як бы забыло,
Хаваецца хутка за курган,
Хмарамі небо засланіло,
І на зямліцу паў туман.

У лузі калінкі пажаўцелі,
Чарнеюць голыя паля,
Буслы у вырай адляцелі,
Да сну зьбіраецца зямля.

Аддаўшы нам свае багацці,
Адзета пухавым рунoм,
Сьпі-адыхай, зямелька-маці,
Пад беласьнежным палуном!

Маркотна, ціха у прасторы,
Куды ні кінь, куды ні руш,
Пяўцоў скрыдлатых змоўклі хоры
І наступіла ўсюды глуш.

Прайшла, мінулася пагода,
Паціснуў холад бедака,
Нівесела глядзіць прырода,
Так, як і доля мужыка!

*Стары Улас.*

## Успамін.

Успамінаецца бедная вёска,
Дзе на сьвет я радзіўся і рос;
Садочак, гароду палоска,
Дзе яблыні, грушы я трос.
Хаты новае нашай ваконцы,
Дзьве бярозкі абапал варот,
Стары лес, сенажаці без конца,
Тэлеграфны сьпеваючы дрот;
Лес казённы—с паўночнага боку,
А на ўсход—лес князеўскі і луг,
Дзе зьвінело сьпеванне што року
Вясной-летам пташок-весялух.
Мілы, родны куток! Я манюся
Хоць йшчэ раз паглядзець на цібе,
Але ж моцы німа... Я тамлюся,
Пакараючысь цяжкай судзьбе.
Ці ж ні будзе якой перамены?
Ці ж пакінуў цібе я саўсім?
Ці ж закрые цібе плот каменны
І памру я з жаданнем сваім?
Не!.. здаецца мне йначай:
«Хоць на момант туды залячу»-
Хачу долі старонкі жэбрачай
Яе болю—пакуты хачу.
І, пакуль аж навек ні загіну,
Гэту думку я буду хаваць.
І ніколі я ужо ні пакіну
На табе, родны край, сумаваць.

Менск
20/ш 1918 г. *Макар.*

## Здальок.

Над соннай рэкой лозы гнуцца,
На рыбку шуструю глядзяць,
То ціхім ветрам скалыхнуцца
То зноў застояцца, маўчаць.
Сінее лес, як агарожа,
Як плот страшэннай вышыні;
Ніяк прачнуцца ён ні можа
Ад поўнай, пекнай цішыні.
І толькі рэка, та як стужка,
Ніунімна цягнецца — плыве...
Сядзіць на выгані пастушка
З дзявочай думкай у галаве.
Лугі і нівы зялянеюць,
Пад цеплым сонейкам трымцяць.
Буслы пярэстыя рабеюць,
На гнездах стоячы, крычаць.
Ім добра там ў гарэ, высока,
На хвоях тоўстых і дубох;
Хапае стуль птушына воко
Зямлі нівіданы разлог.
Сярод кустоў, пясочкаў, поля
Дарога родная ляжыць...
Вось там прайшла дзяцінна воля.
Я мог там цешыцца і жыць.
Куток мой родны! Як ты мілы,
Як цягнеш ты міне у свой бок!
Цібе забыць ні маю сілы —
Цібе вітаю я здалёк.

Менск
30/ш 1918 г. *Макар.*



Рэдактар Я. Лёсік.







Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Грынбл